


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

1 жніўня 2003 года

№ 31 (432)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень


## Навіны рэгіёну



### Час паказаць усім

**АШМЯНЫ.** У мясцовым краязнаўчым музеі праходзіць выстава «Ваенны рыштунак». Наведвальнікі маюць магчымасць паглядзець на старажытную кальчугу, мудзір гусара 1812 года, шаблю часоў Першай Сусветнай вайны і іншае. Экспанаты былі перададзены з іншых музеяў гадоў 40 таму. Настаў час паказаць іх усім.

**Святлана ЦІШКО.**

### Шахматны кароль

**МАЛАДЗЕЧНА.** Брытанскі чэмпіянат па шахматах, у якім удзельнічалі больш за 300 шахматыстаў з Шатландыі, Англіі, Францыі, Германіі, Расіі, Швейцарыі, праходзіць у Эдынбургу. Беларусь на ім прадстаўляе маладзечанец Віталь Качаткоў. Ён мае 6,5 ачкоў з 9. Змагаецца за II месца. Віталь займаецца гэтым відам спорту з 12 гадоў. Летась ён стаў чэмпіёнам Рэспублікі Беларусь у вышэйшай лізе.

**Святлана ЦІШКО.**

### Новае абсталяванне

**ВАЛОЖЫН.** Абнаўленнем халадзільнага абсталявання займаецца мясцовае райспажытаварыства. Ужо набыты тры нізкатэмпературныя халадзільныя вітрыны для магазіна "Ветразь", што знаходзіцца ў райцэнтры, і дзве сярэднетэмпературныя для гандлёвых кропак у Ракаве і Івянцы. Устаноўлены скрыні для продажу марожанага, якія сталічны хладакамбінат здаў валожынцам у арэнду бясплатна.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Гарэў дом

**ВІЛЕЙКА.** Пажар, у выніку якога выгарэў пакой, а гаспадар 1942 года нараджэння задыхнуўся ў дыме, адбыўся ў адным з жылых дамоў вёскі Рабунь. Няшчасце здарылася з-за неасцярожнага абыходжання з агнём.

**Марына СЛІЖ.**

### Трагедыя ў сям'і

**АСТРАВЕЦ.** Падчас работ па добраўпарадкаванні дарогі ў вёсцы Газа брыгада рамонтнабудаўнічага ўпраўлення спілавала дрэва, сухі сук якога абарваў провад лініі электраперадач. Яго скруцілі, адкінулі з дарогі, аднак мер бяспекі не прынялі, нягледзячы на тое, што аварыя адбылася ў людным месцы. У выніку — загінуў 5-гадовы хлопчык.

**Ірына РАБУШКА.**



# Трывога ў Паняцічах

**ВІЛЕЙКА. Трывожна і сумна звіняць званы Паняціцкай царквы. У мінулыя выхадныя адсюль былі скрадзены іконы.**

Ніхто ў вёсцы дакладна не ведае, калі зламыснікі зрабілі сваю чорную справу. Адны кажуць, быццам бы дзверы святыні былі адчынены яшчэ ў пятніцу, іншыя сцвярджаюць, што замкі збілі ў ноч з суботы на нядзелю. Такой жа думкі прытрымліваецца і пенсіянер Іван Дзік, хата якога знаходзіцца недалёка ад царквы. Ён адным з першых заўважыў сляды няпрошаных гасцей і разам з суседкай выклікаў міліцыю.

Вёска гудзе, як растрывожаны вулей. Жыхары, у большасці сваёй пенсіянеры, не могуць зразумець, дзе нарадзіўся і вырас чалавек, які здолеў падняць руку на святое, асмеліўся абабраць царкву, за аднаўленне якой змагалася столькі людзей.

Першую бажніцу, якая высілася над вясковымі могілкамі, узвялі яшчэ прадзеды сённяшніх жыхароў. Была царква высокай, каменнай, і збірала ў выхадныя дні прыхаджан не толькі з гэтай вёскі. У часы Хрушчова яе разбурылі. "Разадралі на кавалкі трактарам і вывезлі за межы раёна" — сказала Зінаіда Мядзвецкая, жыхарка вёскі. Новую царкву "пабудавалі" ў 2001 годзе. Пераабсталявалі пад яе драўляны будынак клуба, які некалькі гадоў запар стаяў незапатрабаваным, з выбітымі вокнамі і паламанымі дзвярыма. Сродкі на рэстаўрацыйныя работы збіралі, як кажуць, са свету па нітцы. Дапамог Вілейскі райвыканкам, ахвяравалі свае пенсіі вяскоўцы, унёс уклад і былы настаяцель мясцовай царквы Віктар Бікарэвіч. У Паняцічы ён прыязджаў ледзь не кожны месяц, падтрымліваў маральна і матэрыяльна, дзякаваў людзям за тое, што вырашылі аднавіць царкву ў вёсцы, дзе быў яго першы прыход.

Сёлета ў сакавіку споўніўся роўна год з дня яе адкрыцця. Людзі расказваюць, што была ў гэты дзень вялікая ўрачыстасць і малебен, на які сабралася шмат народу. Наведаў у свой час вёску і асвяціў храм і Мітрапаліт Філарэт, які падарыў на добрую памяць вяскоўцам старажытную ікону.



Аляксей Гулевіч — староста Паняціцкай царквы, што ў Вілейскім раёне. Менавіта ён ездзіў у сталіцу з просьбай адкрыць у вёсцы царкву.

Адразу думалася, што менавіта яе зламыснікі і ўкралі. Аднак з царквы, па словах старасты Аляксея Гулевіча, зніклі дзве іншыя іконы, а таксама маліто́ўнікі, металічныя падсвечнікі, што стаялі за царскімі дзвярыма. Цяжка сказаць, хто асмеліўся на такі "подзвіг", але вяскоўцам чамусьці здаецца, што зрабіў гэта чалавек, які не раз быў у Паняцічах, а можа і ў царкве, бо знайсці іх аддалены ад райцэнтра населены пункт не так ужо і проста. А трэба ж было яшчэ ведаць, дзе размешчаны храм, чым у ім можна пажывіцца.

Пасля той ночы мужчыны вырашылі яшчэ больш умацаваць дзверы царквы. На іх прыбілі металічную скобу і павесілі два велізарныя замкі. Цяжка ўздыхаючы, кажуць, што гэтыя запоры зноў жа хутчэй для сумленных людзей. Зладзюгі, калі будуць мець на тое патрэбу, справяцца і з імі, альбо патрапяць у храм праз дах.

**Марына СЛІЖ.**

### Мастацтва вечнае

Сцвярджае наш аўтар Юрый Церабун і расказвае пра некалькі пакаленняў таленавітых мастакоў, якія жылі і жывуць у Смаргоні.

2-я старонка

### Хачу ў Парыж?!



Наш зямляк Віталь, якому давялося ў пошуках заробку з'ездзіць ажно ў Парыж, дзеліцца сваімі ўражаннямі.

4-я старонка

### А ў жніўні, што?

Даспелі апошнія парэчкі, агрэст, дружна прасіцца з драў вішні, раннія яблыкі, грушы і слівы. Чытайце парады садаводам і агароднікам ад пастаяннага вядучага рубрыкі Альбіна Макарэвіча.

6-я старонка

 



# Пра святыні

**МАЛАДЗЕЧНА. Аднойчы перад аматарамі клуба «Гаспадыня», што працуе пры цэнтральнай раённай бібліятэцы, выступіў святар Віталь Багданёнак. Сустрэча так спадабалася наведвальнікам, што на наступную запрасілі Уладзіміра Цярэшчанку — настаўніка праваслаўнай нядзельнай школы для дарослых.**

А з 1998 года бібліятэка на агул пачала працаваць па праграме духоўнага выхавання чытачоў. Яе работнікі ўдзельнічалі ў Свята-Ефрасіннеўскіх, Кірыла-Мяфодзіеўскіх чытаннях, ладзілі выставу духоўнай літаратуры з фондаў бібліятэк Свята-Успенскага храма і касцёла Святога Юзафа. У бліжэйшыя 2 гады зноў будуць арганізаваны сустрэчы са святарамі і настаўнікамі нядзельных школ, пройдуць вечарыны, гістарычныя падарожжы, інтэлектуальныя гульні, прэс-інфарміны.

А пакуль што вынікам працы галоўнага бібліёграфа Валянціны Стэльмах і загадчыцы аддзела абслугоўвання і інфармацыі Таццяны Закрэўскай стала брашура «Святыні Маладзечаншчыны». На 22 старонках расказваецца аб праваслаўных і каталіцкіх храмах раёна. На першых старонках — маладзечанскія Свята-Успенская і Свята-Пакроўская царква, касцёл Святога Юзафа. Далей у алфавітным парадку: Аляхновічы, Беніцы, Краснае, Хожава, Чысць — усяго 23 храмы Маладзечаншчыны, у тым ліку і тыя, што яшчэ будуюцца.

Падаецца самая поўная інфармацыя: у якім баку населенага пункта размешчаны, калі пабудаваны, стыль, архітэктурныя асаблівасці, расклад працы, імёны настаяцеляў, цікавыя гістарычныя звесткі. Расказваецца, напрыклад, пра тое, што ў Беніцы ёсць ікона, падараваная Свята-Пакроўскай царкве жонкай Аляксандра II. Большасць тэкстаў праілюстравана фотаздымкамі. Брашура прызначана вернікам рэгіёна.



Сярод святыняў Маладзечаншчыны – Іосіфаўская царква ў вёсцы Гарадзілава. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Вялікую працу па зборы інфармацыі правялі Таццяна Закрэўская і Валянціна Стэльмах пры дапамозе маладзечанскага благачыннага айца Аляксандра Троцкага, айца Рыгора Папова, настаяцеля царквы ў Груздаве, айца Уладзіміра Рэпіна, які абараніў навуковую працу па праваслаўных прыходах Маладзечаншчыны, і іншых святароў.

Хоць выданнем і цікавяцца прадстаўнікі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, але пакуль што свет убачылі толькі 5 экзэмпляраў. На больш не хапае грошай.

**Святлана ЦІШКО.**

■ СМАРГОНСКІЯ НАТАТКІ

# Мастацтва вечнае

Самым першым мастаком, з якім я пазнаёміўся ў Смаргоні, быў Эдуард Юльянавіч Жакевіч. Ён працаваў мастаком у кінатэатры "Космас". Прыгожа выкананыя гэтым майстрам вялізныя рэкламныя шчыты мне вельмі падабаліся, і я быў проста ўражаны, якая ж падобная Людміла Гурчанка да самой сябе.

Зайшоўшы да яго ў майстэрню, папрасіў дазволу пагледзець творы. І тут, працуючы над жаночым партрэтам перадавіка сельскай гаспадаркі, ён сказаў:

— Няма часу працаваць для сябе. Мне адзін калгас заказаў шэраг партрэтаў сваіх лепшых людзей.

Трэба сказаць, што пісаў ён у акадэмічнай манеры і ўмеў гэта рабіць.

Тут, у майстэрні, пазнаёміўся з яго сынам Эдзікам. Неяк юнак сказаў мне:

— Калі цікавішся мастацтвам, прыходзь, памалюем разам на эцюдах.

Жылі яны тады ў невялічкай хатцы на Святлянскай вуліцы.

Выйшлі за агароды і сталі разглядаць пейзаж. Эдзік выняў туш, ручку са звычайным пяром "Зорачка" і без алоўкавага накіду пачаў працаваць. Такое давялося бачыць упершыню.

Яго віртуознасць, прыгожы штрых, выразнасць, адчуванне прасторы і кампазіцыйная цэласнасць не дазволілі мне выняць свае алоўкі і паперу.

Не мог я тады нешта рабіць пры такім майстры, але мы пасябравалі.

Цяпер Эдуард Эдуардавіч Жакевіч – дацэнт, выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў. У яго на 4-м курсе на аддзяленні рэкламы вучыцца мая пляменніца, дачка брата-скульптара Наташа Церабун.

Няма ніякай скідкі на тое, што мы знаёмыя, бо яна старанна рыхтуецца да яго заняткаў і вельмі патрабавальная да сябе.

Неяк пры сустрэчы ў Мінску ў яго на кафедры Эдуард Эдуардавіч падараваў мне вялізную кніжку прафесара Р.Чантурыя "Гісторыя архітэктуры" са сваімі графічнымі ілюстрацыямі. Тут увесь талент мастака Эдуарда Жакевіча.

Гэты выдатны падарунак сёння — бібліяграфічная рэдкасць, і ён для мяне – самы дарагі.

— А памятаеш, як у Смаргоні пры нашым знаёмстве ты таксама падараваў мне кніжку Леаніда Дайнэкі "Вучыцеся маляваць". Захоўваю ў сваёй бібліятэцы, — сказаў мне вядомы, таленавіты беларускі мастак і выкладчык.

На вуліцы Піянерскай жыла мастачка Лілія Уладзіміраўна Трахалева. Шмат чуў пра папулярнасць яе твораў сярод людзей, ды і брат-скульптар не раз казаў:

— Схадзі, пазнаёмся. Цікавы чалавек.

Нарэшце наша сустрэча адбылася.

У прыбудове з блокаў да сваёй драўлянай хаты яна зрабіла сабе даволі прасторную майстэрню. Асабліва цяпла не было, але працаваць даводзілася.

Углядаючы свой зрок, які ўвесь час пагаршаўся, яна пісала творы вялікіх памераў, таму патрэбна была прастора каб адысці ад палатна.

Гаваркая жанчына адразу мяне зачаравала. Прапанавала паглядзець свае альбомы алоўкавых пейзажаў, а потым перайшлі да жывапісу.

Калі ўбачыў яе шэдэўр "Успаміны", страціў мову. На партрэце – вобраз старой жанчыны з выдатна напісаным тварам, асветленым халодным колерам месячнай ночы, і крэсла, на спінцы якога ляжыць вясельны вэлюм.

Божухна! Якая глыбіня вобразу, выдатны каларыт, прыгажосць і філасофія жыцця! Чаму не бачыў гэтага раней?

Потым мы пасябравалі, але толькі на нейкі момант.

Купіў у яе пейзаж для сваёй вялікай хатняй калекцыі, зрабіў раму, павесіў на дастойнае месца. Убачылі маладзечанскія мастакі. Аб нечым паміж сабой пагутарылі і адзін з іх кажа:

— Амаль І.І.Шышкін. Хто аўтар, дзе купіў?

— Л.У.Трахалева са Смаргоні, — з гонарам адказаў я.

— Прыгожа. Віншую, — сказаў другі мастак, які далучыўся да нашай размовы.

Любаваўся год, другі, а тады чамусьці прычапіўся да кампазіцыі і на сантыметраў 15 падкараціў палатно з правага боку. На мой погляд, твор стаў больш цэльным і выразным.

Неяк запрасіў у Маладзечна Лілію Уладзіміраўну на выстаўку, дзе былі і мае творы.

Выслухаўшы яе суровую крытыку мне і другім мастакам, мы пайшлі абедаць, каб падвесці нейкі вынік.

Доўга яна хадзіла па хаце, разглядала маю калекцыю з твораў прафесійных беларускіх мастакоў і ўбачыла свой.

За сталом яна з крыўдай сказала, звярнуўшыся да мяне:

— Калі кожны мэцэнат будзе падаўжаць ці падкарочваць працу, то што тады застанецца ад мастака?

Пасля гэтых слоў яна больш не хацела ні есці, ні піць.

Доўга я прасіў прабачэння за свой мастакоўскі ўчынак, і, відаць, Лілія Уладзіміраўна даравала, бо мы зноў сябравалі.

Толькі не ведала яна, што з цягам часу некаторыя кіраўнікі ўстаноў дадуць загад зняць са сцен творы прафесійных мастакоў, якія, на іх погляд, сталі не сучаснымі, і выкінуць у гаражы, а я ўсяго толькі прыку падкараціў.

Прыемным субяседнікам быў самадзейны скульптар Аляксандр Іванавіч Жываеў, першы настаўнік майго брата. Яшчэ маленькім хлапчуком на выстаўцы твораў самадзейных мастакоў Маладзечанскай вобласці я бачыў яго скульптуру "Свабода".

Гэта быў негр, які разрываў сваімі моцнымі рукамі ланцуг. Мяне здзівіла, як гэта аўтар змог зрабіць усё так тонка і выразна, што відаць напружаныя мышцы і нават жылачкі. Негр быў чорны з сінім адценнем. І не мог я тады ўцяміць, што гэта таніраваны гіпс, аб чым даведаўся толькі потым.

У майстэрні Аляксандра Іванавіча ў Залессі давялося блізка пазнаёміцца з творчасцю гэтага самабытнага мастака. Сярод яго скульптур быў партрэт М.Агінскага, і пасля абмеркавання гэтага невялічкага па сваіх памерах твора мы разам пайшлі ў маёнтак, каб аддаць даніну павагі нашаму знакамітаму земляку.

Сёння ў Смаргоні жыве і працуе новае пакаленне таленавітых мастакоў. Адзін толькі Аляксандр Іваноў можа праславіць горад і Беларусь на самых прэстыжных выстаўках, не кажучы пра іншых.

У кожнага творцы свой час і свая эпоха. Творчых поспехаў вам, дарагія мастакі і калегі!

**Юрый ЦЕРАБУН.**

■ ТЭАТР

## Новы рэжысёр у абноўленым тэатры

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны драмтэатр паўгода адпрацаваў без мастацкага кіраўніка.**

Пасля таго, як Мікалай Мацкевіч пайшоў на заслужаны адпачынак, кіраўніцтва было ў руках мастацкай рады. 28 жніўня ў тэатр прыйдзе новы мастацкі кіраўнік – Валерый Ласоўскі, рэжысёр Тэатра беларускай драматургіі. Яго кандыдатура зацверджана Мінаблвыканкомам. «Мы супрацоўнічаем з Валерыем Мурычным, – гаворыць дырэктар тэатра Сяргей Валькові̇ч. – Магчыма, ён будзе пастаноўшчыкам наваготняга шоў у 2004 годзе. Мы спадзяёмся, што Валерый Мурычын пяройдзе да нас на пастаянную працу». Так што хутка ў тэатры будзе некалькі супрацоўнікаў з рэжысёрскай адукацыяй.

«Каб тэатр быў падобны на тэатр, – працягвае Сяргей Валькові̇ч, – хочацца абнавіць фае, замяніць апаратуру, бо наша – гэта ўчарашні дзень. Але фінансавае становішча не дазваляе. Напрыклад, рамонт фасада прыватная фірма рабіла практычна ў доўг, напавер».

**Святлана ЦІШКО.**

■ ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## Каб вярнуцца да вытокаў

**Прачытала ў газеце матэрыял Марыны Сліж "Каб ведаць, хто мы". Поўнасцю з ёй згодна, але хачу выказаць і свой пункт гледжання.**

Нарадзілася я ў горадзе Маладзечна. Бацька – рускі з Ноўгарада, маці – полька з Варшавы. Я – беларуска. Сказаць, што люблю сваю Радзіму Беларусь, значыць не сказаць нічога.

Я не размаўляю па-беларуску. Не могуць гаварыць на гэтай мове ні мае дзеці, ні ўнукі. Хаця таксама нарадзіліся ў Маладзечне. Але ўсе мы любім сваю радзіму і ганарымся сваёй нацыянальнай прыналежнасцю. Чытаем беларускія газеты, часопісы, кнігі, спяваем беларускія песні. Дарослыя члены маёй сям'і вывучаюць гісторыю нашай дзяржавы. А падштурхнулі да гэтага публікацыі ў прэсе, у якіх расказвалася пра невядомыя раней факты з гісторыі народа беларускага народа. Калі пазнаёміцца з імі і гістарычнымі звесткамі, якія раней нідзе не друкаваліся, становіцца зразумела, што ў гісторыі маёй радзімы і сапраўды шмат белых плям. Быццам і не была яна ніколі дзяржавай, а толькі вотчынай то палякаў, то рускіх.

Толькі цяпер адкрываюцца слаўныя старонкі нашага мінулага, аб якіх мы раней нават не ведалі. Добра ж пастараліся рускія, палякі, а затым і Савецкі Саюз, калі амаль усё выкраслілі з нашай гісторыі. Вось і дайшлі да таго, што забыліся пра свае карані. Відаць, былі добрым матэрыялам для "лепкі".

Час ідзе. Людзі ўсё часцей і часцей падымаюць на старонках часопісаў, газет, пытанне "хто мы?" Зразумелі, што гісторыя народа непадзельная з гісторыяй горада, чалавека, сям'і, што любоў да радзімы, патрыятызм, гонар за зямлю, на якой мы жывём, павінны прайшкаць з малаком маці, выхоўвацца з дзяцінства. Гэта павінна быць палітыкай дзяржавы. І не трэба блытаць паняцці "гонар за нацыю" з "нацыяналізмам", бо я не нацыяналістка.

У старажытных славян юнак не мог стаць паўналетнім, пакуль нараўне з фізічнымі выпрабаваннямі не быў здадзены самы галоўны экзамен – гісторыя жыцця пяці пакаленняў продкаў. Той, хто не ведаў і не памятаў сваіх каранёў, лічыўся небяспечным чалавекам, бо мог здрадзіць радзіме, яму не было чаго губляць. Хто можа сёння расказаць аб пяці пакаленнях, што жылі перад намі?

Не адразу беларусы вернуцца да сваіх вытокаў. Экскурс у мінулае яшчэ толькі пачаўся. Але, каб ганарыцца, трэба ведаць. Гэта ўжо залежыць ад кожнага з нас.

**Наталля МІНОШЫНА.**

 

■ БЕЛАРУСЫ ЗА МЯЖОЙ

# Хачу ў Парыж?!

**Многія нашы землякі едуць зарабляць на хлеб з маслам за мяжу. Здаецца, чым далей ад дому, тым больш плацяць. Але народная мудрасць сцвярджае: «На Падоллі — пірагі па коллі. Мы прыйшлі і там іх не знайшлі». Адзін з нашых суайчыннікаў нядаўна вярнуўся з Францыі і ведае, як там жывецца эмігрантам.**



Парыж. Трыумфальная арка на плошчы дэ Голя. Фота з архіва «РГ».

## У дарогу

Віталь нарадзіўся ў 1976 годзе ў Маладзечне. Вучыўся, служыў у войску. Пасля – шлюб, сын з'явіўся. А сям'ю трэба карміць, плаціць за кватэру. Служыў кантрактнікам у в/ч 52242, працаваў барменам, рабочым на заводзе лёгкіх металаканструкцый. Але грошай было нягуста. Так прыйшоў да думкі, што трэба ехаць за мяжу. На візу, білет, найманне кватэры, харчаванне пазычыў 250 долараў у сваякоў і сяброў.

«Мы ехалі ў Партугалію, – расказвае Віталь, – там былі знаёмыя хлопцы. Спачатку два дні аўтобусам Мінск-Ніца. Пасля яшчэ суткі ад Ніцы да сталіцы Партугаліі Лісабона.

Праз акно бачылі Польшчу, Германію, Аўстрыю, Іспанію, Італію, Францыю. У Лісабоне купілі тэлефонную картку, сталі званіць сваім знаёмым і знаёмым знаёмых. А яны нам адказалі: «Хлопцы, калі не хочаце карміць клапоў, уцякайце адсюль як можна далей». На той час ужо 50% легальных рабочых не маглі знайсці сабе працу, а мы ж – нелегалы. Акрамя таго, у Партугаліі вельмі многа рэкецціраў з заходняй Украіны, якія палююць на грошы турыстаў і нелегалаў. Падумаўшы, мы накіраваліся ў Францыю. Грошы хутка разышліся. Калі мы нарэшце апынуліся ў Парыжы, у нас было 30 еўра на дваіх».

## Віват, Парыж!

Горад падзелены на 5 зон. Толькі 1-я і 2-я – уласна Парыж, астатнія — прыгарад. Прэстыжна жыць у 4-5 зоне, а ў цэнтры — толькі эмігранты і турысты, французаў мала. Бо ў цэнтральнай частцы горада вельмі брудна, шмат смецця. Там вельмі добрая ўборачная тэхніка, тратуары мыюцца з шампунем. Але ў 6 раніцы прыбіраюць, а ў 8 прыходзяць латочнікі і раскладаюць сваю драбязу — зноў валяюцца газеты, кардон.

З цэнтра ў прыгарад зручна дабірацца RER'амі. Гэта штосьці кшталту электрычкі цэнтр-прыгарад, калі б такая існавала.

У першы дзень па падказцы аднаго рускамоўнага бамжа Віталь з сябрам начавалі ў падземным пераходзе. На падлозе — гумавыя дарожкі-дыванкі. А калі яшчэ падаслаць кардон, вельмі добра спіцца. Спачатку хлопцы саромеліся. Але, як пабачылі, што там на начлег збіраецца многа народу, супакоіліся. Пасля два тыдні начавалі ў метро. Яшчэ два пабылі кандыдатамі ў Іншаземным легіёне. І зноў вярнуліся ў метро. Пэўны час здымалі паддашак на траіх. Але пасля нехта з французаў паскардзіўся, што ў пакоі, разлічаным на аднаго, жывуць тры хлопцы. Прыйшла паліцыя і высяліла іх з памяшкання. Два разы ўвогуле начавалі пад мостам. А ўжо ў кастрычніку, хоць і былі коўдры, кардон, але ўсё роўна холадна. Толькі праз 3 месяцы знайшлі закінуты дом у 4-й зоне.

Уладамі ўстаноўлены спецыяльныя дні, калі старыя рэчы выстаўляюцца проста на вуліцу. Пасля машына едзе і збірае ўсё выкінутае. А бывае, што французы пазбаўляюцца добрых рэчаў, якімі яшчэ можна карыстацца. Дапусцім, нейкая сям'я можа сабе купіць тэлевізар новай, самай апошняй мадэлі, таму стары выкідае. Галоўнае — прыйсці раней за машыну і забраць. Але і за такімі рэчамі трэба яшчэ пабегаць, бо жадаючых многа, асабліва з заходняй Украіны. Украінцы збіраюць гэтыя рэчы і адпраўляюць спецыяльным мікрааўтобусам дадому. Віталь з сябрам добра пабегалі, пашукалі, але знайшлі сабе даволі прыстойныя матрацы, тэлевізар, мікрахвалевую печ.

А ўвогуле, найманне кватэры абыходзіцца дорага — 500-600 еўра ў месяц, каля 150 еўра на чалавека .

Цэны на ежу розныя. У адной краме бутэлька той жа Coca-Col'ы каштуе ў два разы больш, чым у суседняй. Курыныя кумпячкі прадаюцца па той жа цане, што і ў Беларусі, мясны фарш у нас таннейшы. Але есці можна і бясплатна. Для гэтага ёсць спецыяльныя сталоўкі, дзе кормяць днём. Даюць першае, на другое — макарона, фасоля (або сачавіца), сасіскі ці кавалачак курыцы, кава, гарачае малако, кукурузныя шматкі. Ёсць месцы, дзе ў 20.00 даюць «ссабоечкі»: кавалак багета, ёгурт, малако, сок, абавязкова мясныя кансервы, яблык (банан, груша). На раздачы працуюць валанцёры — французы, якім за гэта адчувальна змяншаюць падаткі.

## На «платформе»

У асноўным эмігранты-нелегалы выконваюць рэстаўрацыйныя, рамонтныя работы або становяцца рознарабочымі. Такую працу шукаюць на «платформе» (у Парыжы ёсць магазіны будаўнічых матэрыялаў «Платформ» - адсюль назва гэтага месца). Проста стаіш і чакаеш. Прэтэндэнтаў шмат і розных нацыянальнасцей: малдаване, беларусы, румыны, рускія, арабы, палякі. Прыязджаюць патроны і пытаюцца, хто што можа рабіць. Таму неабходна ведаць набор слоў, якія абазначаюць тваё працоўныя ўменні. Можна, зразумела, і зманіць. Але ніхто не будзе чакаць, пакуль ты навучышся. Патрон табе скажа: «Ты не умееш гэта рабіць», — і звольніць. Нелегалам плацяць на будоўлі па 40-60 еўра за 8 гадзін у дзень. У каго ёсць дазвол на працу і добрая спецыяльнасць, зарабляюць больш. Напрыклад, дзяўчына-праграміст з Мінска мела 120 еўра заробку у дзень, 5600 у месяц.

Трэба быць асцярожным: патрон можа і не выплаціць заробак. Але выйсце ёсць і з такой сітуацыі. Неабходна трапіць на рабочае месца, апрануцца ў «спяцоўку». Пасля трэба запатрабаваць свае грошы. Калі патрон адмовіцца, можна яго біць. Справа ў тым, што за кожнага «нелегала» працадаўцу належыць заплаціць штраф мінімум 20-30 тысяч еўра. Таму паліцыю на такія «разборкі» выклікаць не любяць. Тым больш, што паліцыя вымушае патрона выплаціць «нелегалу» заробак.

Калі працы няма, то вольнага часу многа. Можна хадзіць па горадзе, аглядаць яго выдатныя мясціны, фатаграфавацца. Ёсць у Парыжы бібліятэка Жоржа Пампіду. Там эмігранты могуць бясплатна слухаць музыку, вывучаць французскую мову, карыстацца Інтэрнетам. Многія хлопцы робяць так: прачнуцца, сходзяць у «дармоўку» (бясплатную сталоўку) і цэлы дзень слухаюць музыку, сядзяць у Інтэрнэце — працу нават не шукаюць.

У 5-й зоне Парыжа знаходзіцца знакаміты Дысней-лэнд. Гэты парк займае вялікую плошчу, але там выдаюць карту-даведнік на французскай, англійскай, нямецкай мове на выбар (на рускай, а тым больш на беларускай няма). Вакол атракцыёнаў ходзіць цягнічок. Уваходны білет каштуе 39 еўра, ён жа з'яўляецца білетам на ўсе атракцыёны. Дадаткова траціцца давядзецца толькі на ежу. Звычайна наведвальнікі праводзяць у парку цэлы дзень, бо забавы ёсць як для дзяцей, так і для дарослых.

У Францыі танней абыходзіцца карыстанне сотавым тэлефонам. Нават заробкі «нелегала» дазваляюць такую раскошу: Віталь мог патэлефанаваць сваякам, каб павіншаваць, напрыклад, з днём нараджэння. Але перад вяртаннем на радзіму прадаў «трубу»: у Беларусі ён не можа аплаціць такія выдаткі.

Пасылкі можна адпраўляць з вадзіцелямі аўтобусаў, што едуць праз Мінск. Трэба толькі папярэдзіць, у якім горадзе іх сустрэнуць. Натуральна, гэта платная паслуга. Нашы хлопцы заплацілі 80 еўра. Так перадаюць рэчы. З грашыма прасцей. Віталь карыстаўся паслугамі кампаніі, дзе варта толькі запоўніць бланк, даць грошы, запомніць індывідуальны код свайго перавода, і заплаціць за паслугу (30 еўра за суму да 500 еўра). Праз гадзіну сваякі могуць ужо ісці ў мясцовае (напрыклад, маладзечанскае) аддзяленне гэтай кампаніі і забіраць адпраўленую суму.

Праваахоўныя органы — гэта не праблема, калі не займацца продажам наркотыкаў. Паліцэйскія могуць спыніць на вуліцы, праверыць дакументы. І ўсё. А ў якасці дакументаў прымаюцца любыя паперы, нават праязны білет з фатаздымкам. Прычым запаўняюць іх са слоў самога грамадзяніна. Аднойчы затрымалі нашага земляка, а ў яго 5 дакументаў на розныя імёны. Але гэтыя хлопец жыў крадзяжом, таму ім зацікавіліся. Сапраўдны пашпарт Віталь не раіць паказваць: так менш праблем. Хлопцы, якія з самага пачатку не збіраліся вяртацца ў Беларусь, свае пашпарты закапалі яшчэ ў Германіі.

Нават калі "маладзечанскіх парыжан" за бойку з несумленным працадаўцам завезлі ў паліцэйскі ўчастак, нічога страшнага не адбылося. Капітан праверыў у хлопцаў дакументы. Затым прыйшлі 2 чалавекі ў цывільным і сказалі, што нелегалам працаваць у Францыі нельга. Хлопцы адказалі: «Мы гэта ведаем, але ж вельмі хочацца есці». На іх склалі пратакол і адпусцілі.

«Мужчынам у Парыжы нішто не пагражае, — упэўнены Віталь. Небяспека і злачыннасць – гэта ж мы, нелегалы», — гаворыць ён з усмешкай. Што сапраўды пагражае нелегалу, дык гэта нервовы зрыў. Тыдзень стаіш на "платформе", другі – на працу ніхто не бярэ. З цягам часу апаноўваюць думкі: «Тут тое ж самае, што і дома. Няма працы, няма грошай. А дома даўгі засталіся. Мне зноў не шанцуе, я няўдачнік».

## Зноў на завод

Вяртацца можна самастойна, але лепш рабіць гэта за кошт Францыі. Ёсць аддзел Імігрэйшн Інтэрнэшнл. Жыхары былых французскіх калоній карыстаюцца ім, каб легалізавацца. Выхадцы з былога СССР — каб паехаць дадому. Там на чалавека складаецца анкета (гэта ці не адзіная ўстанова, дзе варта прад'явіць пашпарт беларускага грамадзяніна). Затым прызначаюць наступную сустрэчу. На ёй можа высветліцца, што ваша заява, анкета і ксеракопія пашпарта згубіліся. Але ўвесь пакет дакументаў хутка аднаўляюць. Звычайна ж на другой сустрэчы вам заказваюць білет і даюць на дарожныя выдаткі 153 еўра. Усё, можна ехаць. Практычна ніякіх перашкод больш не існуе.

Віталя спынілі на аўстрыйскай мяжы з-за таго, што віза была ўжо пратэрмінаваная. Мытнік на нямецкай мове спрабаваў растлумачыць, што за гэта трэба плаціць штраф 180 еўра. Віталь на ламанай французскай дзяўдзіць, што ў яго грошай няма. Зазірнулі ў кашалёк, але ж неабавязкова трымаць там канверсоўную валюту. Абураны мытнік разлапава пастаўлены штамп у пашпарце і прабурчаў нешта па-нямецку, мусіць, лаяўся.

**Цяпер Віталь зноў працуе рабочым на адным з прадпрыемстваў Маладзечна. Жадаючых паехаць на заробкі за мяжу папярэджвае: «Жыць там можна. Я сам нізашто не вярнуўся б, калі б не жонка і сын. Але каб зарабіць вялікія грошы, трэба знайсці пастаянную працу. Гэта вельмі цяжка, асабліва для нелегала. А ўвогуле — вучыце мову краіны, у якую хочаце паехаць яшчэ на радзіме».**

Святлана ЦІШКО.

**Парыж – сталіца Францыі, галоўны эканамічны, палітычны і культурны цэнтр краіны, адзін з найпрыгажэйшых гарадоў свету. Размешчаны на рацэ Сена. Клімат мяккі, умераны, марскі. Колькасць марозных сутак у год – 52.**
**У адрозненні ад іншых гарадоў Францыі, Парыж мае спецыяльны адміністрацыйны статус, устаноўлены законам ад 10 ліпеня 1964 года. У Парыжы няма мэра горада. Яго функцыі ажыццяўляюць прэфект горада і прэфект паліцыі, якіх назначае прэзідэнт Францыі.**
**Большасць прамысловых прадпрыемстваў размешчана ў заходніх і паўночных прыгарадах Парыжа, пераважна ля берагоў Сены і ўздоўж канала Сен-Дэні. У горадзе сканцэнтраваны 72 % банкаўскіх капіталаў. Тут праходзяць самыя буйныя гандлёвыя ярмаркі, а горад штогод наведваюць мільёны замежных турыстаў, якіх абслугоўваюць каля 1300 гатэляў.**

■ КОНКУРС

## Прагназісты – на старт!

**На спартыўнай старонцы "РГ" пачынаецца чарговы конкурс. У ім трэба будзе прагназаваць лікі матчаў беларускага футбольнага сезона. Нагадаем, жаданне ўдзельнічаць у падобным конкурсе выказалася чытачамі газеты зімой пры падвядзенні вынікаў конкурсу на веданне правіл розных відаў спорту.**

Да заканчэння сезона мы паспеем правесці, хутчэй за ўсё, сем тураў. Пераможца кожнага тура забяспечыць сабе маральнае задавальненне і павагу астатніх удзельнікаў. Тыя, хто выйграюць два туры (не абавязкова запар), атрымаюць прыз ад газеты. "РГ" іх не пакрыўдзіць.

У кожным туры трэба будзе спрагназаваць вынікі пяці матчаў. Пераможа той, хто прадказка больш правільных лікаў. Пры роўнасці ўжываецца наступны крытэрый – колькасць правільных зыходаў (перамога той ці іншай каманды альбо нічыя). Калі і так пераможца не высветліцца, паміж прэтэндэнтамі будзе арганізаваны асобны залік у наступным туры.

### Першы тур

**З якім лікам (у асноўны час) 9-10 жніўня завяршацца матчы 1/16 фінала розыгрыша Кубка краіны.**

**Смаргонь – Маладзечна-2000.**
**Забудова – БАТЭ (Барысаў).**
**Баранавічы – Шахцёр (Салігорск).**
**Лакаматыў (Віцебск) – Славія (Мазыр).**
**МТЗ-РІПА (Мінск) – Тарпеда-СКА (Мінск).**

Адказы прымаюцца да пятніцы, 8 жніўня. Іх трэба дасылаць на паштовы адрас рэдакцыі альбо на электронны адрас konkurs@tut.by.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДЗЮДО

# Перамога на выездзе

**Паспяхова завяршыўся міжнародны турнір, у г.Куакенбюрг у Германіі па дзюдо сярод юнакоў 1989-92 гадоў нараджэння. У ім удзельнічала і зборная Маладзечна.**

У першы дзень спаборніцтваў ва ўзроставай катэгорыі 1992 года нараджэння і маладзей нашу каманду прадстаўлялі Ян Панарын і Надзея Яцыновіч. Ва ўпартай барацьбе ўсе схваткі выйграў Ян і заняў першае месца. У фінале сярод дзяўчынак Надзея саступіла больш цяжкай саперніцы. На другі дзень турніру выйшлі на татамі юнакі 1989-90 гадоў нараджэння. Ніякіх шанцаў на перамогу сваім сапернікам не пакінулі нашы спартсмены: Віталь Шаўлюк, Арцём Гоман, Віталь Пачкоўскі. Яны выйгралі ўсе паядынкі чыста і датэрмінова.



**Яўген Вашынка, Віталь Пачкоўскі, Віталь Шаўлюк, Яўген Сушко, Арцём Гоман, Ян Панарын, Надзея Яцыновіч.**
Фота Станіслава Пачкоўскага.

"Срэбра" ў вельмі ўпартай барацьбе выйграў Арцём Навум, якога, мягка кажучы, "прыхапілі" ў фінале мясцовыя суддзі. Таксама ў прыватным першынстве стаў бронзавым прызёрам "душа" каманды Яўген Сушко.

Затым была барацьба "сценка" на "сценку", гэта значыць каманда на каманду, у якой у вельмі ўпартай барацьбе наша каманда ўзяла "золата". У вырашальным паядынку супраць нямецкай каманды пры ліку 3:3 Арцём Навум проста разграміў свайго саперніка і ўзяў такім чынам рэванш за несправядлівае паражэнне ў папярэднім фінале. Хочацца адзначыць Шаўлюка Віталя, які бароўся з сапернікам, цяжэйшым за яго на 12 кг, аднак не завагаўся і выйграў схватку.

**Станіслаў ПАЧКОЎСКІ, дырэктар ФСК "Аганёк".**

■ БАСКЕТБОЛ

## Алена Рынкевіч – сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы

**У турэцкім Неўшахіры прайшоў фінальны турнір кантынентальнага першынства сярод кадэтак – дзяўчат 1987 г.н. і маладзейшых. Проста бліскуча выступіла зборная Беларусі, у складзе якой адной з лідэраў з'яўляецца выхаванка смаргонскай СДЮШАР Алена Рынкевіч. Дарэчы, кіраўніком дэлегацыі быў дырэктар СДЮШАР Валерый Юрчанка.**

Нашы суайчынніцы саступілі толькі камандзе Сербіі і Чарнагорыі (былая Югаславія), спачатку ў групавым турніры, а потым у фінальным матчы.

Вынікі ўсіх сустрэч: супраць Расіі 64:60 (Рынкевіч набрала 25 ачкоў – найбольш за ўсіх беларусак), Чэхіі 92:79 (20), Германіі 76:59 (16), Сербіі і Чарнагорыі 64:70 (8), Італіі 74:54 (15). Заняўшы другое месца ў групе, выйшлі ў чвэрцьфінал на дацкіх крыўдзіцеляў з Францыі – 62:50 (15). У паўфінальнай сустрэчы пераўзышлі Іспанію – 78:67 (14). А вось у фінале было цяжка выстаяць пад традыцыйным жорсткім гнётам прадстаўніц югаслаўскага баскетбола – 61:73 (2).

Зараз зборная накіравалася ў Парыж, дзе праходзіць Алімпійскі фестываль моладзі 1986-89 г.н.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Упартая нічыя

**24 ліпеня. 3500 гледачоў. Суддзя Скроб. Смаргонь – Хімік (Светлагорск) 1:1 (1:0).**

Галы: Грабаздзін (12-пен); Размысловіч (62). Склад: 16.Шляхавой – 4.Курак, 19.Давідовіч, 3.Судзін, 2.Трындзюк – 6.Тарасаў, 10.Карасёў, 9.Дзігілевіч (13.Дукса,63), 7.Грабаздзін, 8.Кукалевіч – 11.Валовік.

Пенальці гаспадары зарабілі ў сітуацыі, калі Дзігілевіча, які валодаў мячом, абаронцы абхапілі рукамі і "завалілі" ў штрафной. Грабаздзін прыгожа рэалізаваў адзінаццаціметровы, пабіўшы ў левы ніжні кут, а варатара прымусіў кінуцца ў іншы бок (1:0).

Госці часцей выйгравалі барацьбу у паветры, карыстаючыся сваёй перавагай у росце. Асабліва небяспечнымі былі некалькі розыгрышаў вуглавых у першым тайме: пасля ўдараў галавой мяч і ў перакладзіну трапляў, і Шляхавому даводзілася праяўляць сваё майстэрства.

Усё ж светлагорцы выратавалі ачко. Перахапіўшы мяч у цэнтры поля, яны наладзілі галяўю атаку, праўда, наш галкіпер, далёка выскачыўшы з варот, крыху адбіў мяч, але сапернік паразіў пустую "рамку" (1:1).

**24.07.**
**Ведрыч-97 – Бяроза 3:1,**
**Днепр-ДЮСШ-1 – Ліда 1:2,**
**Граніт – Пінск-900 0:0.**

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

**24 ліпеня. Сож (Крычаў) – Забудова 1:0. Гол: (77).**

На 28-ай хвіліне Вышынскі (Забудова) не рэалізаваў пенальці. На 90-ай хвіліне выдалены Татун (Забудова).

■ ТАЙСКІ БОКС

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванец клуба "Гладыятар" Павел Лапато выступіў у Калінінградзе на спаборніцтвах пад назвай "Першы маладзёжны (да 18 гадоў) чэмпіянат свету па версіі IMTE".**

Ён перамог у катэгорыі да 80 кг. Правёў два баі. У паўфінале быў мацней за прадстаўніка Польшчы, а ў фінальным пяціраундавым паядынку адолеў земляка-беларуса. Павел ужо тры гады адвучыўся ў палітэхнічным каледжы, і ўвесь гэты час трэніруецца ў Сяргея Панцюхова.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Анонс**

**2 жніўня. 17-30. Смаргонь – Вертыкаль (Калінкавічы).**
+1=0-0 1-0. У першым крузе 1:0 (Грабаздзін) на выездзе.

**2 жніўня. 17-00. Забудова – Ліваздзія (Дзяржынск).**
+1=0-0 2-0. У першым крузе 2:0 (Янель, Савіцкі) на выездзе. 7 месца, 16 ачкоў – 9 месца, 15 ачкоў.

**2 жніўня. 17-00. Маладзечна-2000 (дубль) – БАТЭ (Барысаў, дубль).**
+0=1-4 3-16. У першым крузе 0:4 на выездзе.

**3 жніўня. 18-00. Маладзечна-2000 – БАТЭ (Барысаў)**
+1=0-8 10-27. У першым крузе 2:3 (М.Альхавік – 2) на выездзе

■ ФУТБОЛ, АНАЛІЗ

# Добрыя грошы – добры вынік

**Паставіўшы мэту стварыць моцную футбольную каманду, у Смаргоні пайшлі па шляху запрашэння гульцоў з іншых мясцін. Знайшліся на гэта грошы, і сёлета каманда дэманструе найлепшы вынік у гісторыі смаргонскага футбола.**

### Выступленне каманды

Падзяліўшы ў табліцы 7-8 месцы, смаргонцы ледзь-ледзь адстаюць ад шасцёркі мацнейшых, не кажучы ўжо аб максімальнай задачы апынуцца ў тройцы прызёраў. Абноўленаму складу магло не хапіць часу, каб згуляцца. Зразумела, што слабых сапернікаў у верхняй палове табліцы няма. Аднак пастаўленыя задачы былі забяспечаны ўсімі неабходнымі ўмовамі, а значыць, пазаны вынік нельга прызнаць жаданым. Ён і не правальны таксама.

Круг падзяліўся на тры роўныя часткі з пяці матчаў. Спачатку было набрана 12 ачкоў, потым – правал – 2 ачкі (без перамог), напрыканцы – 10 ачкоў. Найлепшымі сустрэчамі можна лічыць гасцявыя перамогі над сапернікамі з верхняй паловы МТЗ-РІПА і "Лідай". Горшымі – паражэнні (таксама на выездзе) ад "Граніта" (адзінае з розніцай у 2 мячы) і аўтсайдэра "Бярозы".

### Выступленне гульцоў

Даволі нечаканай была варатарская праблема. Ад паслуг Шэлеста зімой адмовіліся, а Шыдук у апошні тыдзень перад стартам вярнуўся ў Масты, таму ўся нагрузка лягла на Шляхавога. На жаль, ён дапускаў памылкі, і ў некаторых матчах яго падмяняў трэнер Хіманыч.

У абароне лепшы – малады Курак на правым краі, які даўно ўжо ў камандзе, цэнтральную зону мацуе навічок Судзін. На астатніх пазіцыях выканаўцы часта змяняліся. На жаль, падверджанымі праблемам недысцыплінаванасці ў вольны час аказаліся гульцы асноўнага складу дасведчаныя Іваноў і Кашкар.

У паўабароне амаль увесь круг трывала правялі трое гульцоў цэнтральнай зоны. Калі Дзігілевіч і Грабаздзін былі больш арыентаваны на атаку, то капітан Карасёў стаў сапраўдным лідэрам, арганізатарам каманднай гульні. У лініі атакі не было канкурэнцыі Валовіку, але ў яго здарэліся няўдалыя матчы. Аднак апошнія тры тыдні ён правёў на належным узроўні, асабліва вылучыўся ў Лідзе, калі забіў 2 галы.

### Яшчэ ўзмацняцца

Прэзідэнт клуба Міхаіл Чуковіч паведаміў, што па-ранейшаму ставіцца задача быць у тройцы прызёраў. Для гэтага склад будзе ўзмацняцца. Патрэбна хаця б па адным варатары, абаронцы і нападаючым. На гэтым тыдні ішоў прагляд патэнцыяльных навабранцаў. Пакінуць заявачны спіс, хутчэй за ўсё, Жырун, Іваноў, Казлоў і Мазалоўскі.

Бамбардзіры: Савельеў (ЗЛіН) – 14, Кузьмянок (МТЗ-РІПА) – 13.

За "Смаргонь" забівалі: Валовік – 6, Грабаздзін – 5, Карасёў – 3, Іваноў, Казлоў, Мазалоўскі, Судзін, Тарасаў, Трындзюк, Шырабокаў, аўтагол (Цвяцінскі – "Дынама-Юні") – па 1.

**Каляндар на другі круг.** 2 жніўня (субота) – "Вертыкаль" (Калінкавічы) дома, 9 жніўня (субота) – 1/16 Кубка краіны – "Маладзечна-2000" дома, 13 жніўня (серада) – "Дынама-Юні" (Мінск) на выездзе, 17 жніўня (нядзеля) – "Тарпеда-Кадзіна" (Магілёў) дома, 24 жніўня (нядзеля) – МТЗ-РІПА (Мінск) дома, 30 жніўня (субота) – "Днепр-ДЮСШ-1" (Рагачоў) на выездзе, 7 верасня (нядзеля) – "Лакаматыў" (Віцебск) дома, 13 верасня (субота) – "Ведрыч-97" (Рэчыца) на выездзе, 21 верасня (нядзеля) – "Граніт" (Мікашэвічы) дома, 27 верасня (субота) – "Камунальнік" (Слонім) на выездзе, 5 кастрычніка (нядзеля) – ЗЛіН (Гомель) дома, 8 кастрычніка (серада) – 1/8 Кубка краіны, 12 кастрычніка (нядзеля) – "Пінск-900" на выездзе, 19 кастрычніка (нядзеля) – "Бяроза" дома, 25 кастрычніка (субота) – "Нёман" (Масты) на выездзе, 2 лістапада (нядзеля) – "Ліда" дома, 8 лістапада (субота) – "Хімік" (Светлагорск) на выездзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табліца**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МТЗ-РІПА | 15 | 11 | 1 | 3 | 31-8 | 34 |
| 2. ЗЛіН | 15 | 9 | 3 | 3 | 26-12 | 30 |
| 3. Лакаматыў (В) | 15 | 9 | 3 | 3 | 26-13 | 30 |
| 4. Хімік | 15 | 8 | 4 | 3 | 21-17 | 28 |
| 5. Граніт | 15 | 7 | 6 | 2 | 17-8 | 27 |
| 6. Ліда | 15 | 8 | 2 | 5 | 26-16 | 26 |
| 7. Смаргонь | 15 | 7 | 3 | 5 | 22-11 | 24 |
| 8. Ведрыч-97 | 15 | 7 | 3 | 5 | 25-15 | 24 |
| 9. Камунальнік | 15 | 5 | 5 | 5 | 16-20 | 20 |
| 10. Нёман | 15 | 5 | 2 | 8 | 19-27 | 17 |
| 11. Тарпеда-Кадзіна | 15 | 4 | 5 | 6 | 15-18 | 17 |
| 12. Вертыкаль | 15 | 4 | 2 | 9 | 11-21 | 14 |
| 13. Днепр-ДЮСШ-1 | 15 | 3 | 4 | 8 | 10-23 | 13 |
| 14. Дынама-Юні | 15 | 4 | 0 | 11 | 18-37 | 12 |
| 15. Бяроза | 15 | 3 | 3 | 9 | 10-26 | 12 |
| 16. Пінск-900 | 15 | 2 | 2 | 11 | 10-31 | 8 |

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ ВІЛЯЙЧАН

## Ці ведаеце сваіх продкаў?



**Максім Дземяшкевіч, студэнт-юрыст:**

Мае продкі жылі пад Даўгінавам, тады яшчэ пры Польшчы. Я ўжо даўно хачу аднавіць свой радавод. Канешне, ведаю сваіх продкаў, але яшчэ трэба пакапацца ў мінскім архіве. І генеалагічнае дрэва збіраюся нарысаваць.



**Наталля Чарапан, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце школы-інтэрната:**

Бабуль і дзядуль ведаю. Мой дзед па бацькавым баку меў свой надзел зямлі, дзе і працаваў. А маміны бацькі з Магілёўшчыны. Яе бацька загінуў падчас Першай Сусветнай вайны.



**Юрый Сямёнаў, грузчык камбікормавага завода:**

Ведаю толькі да бабуль і дзядуль. Адны былі з Сібіры: дзед памёр у вайну, а бабуля і цяпер жывая. Другія паходзяць з Вілейкі.



**Маша Батурава, першакласніца СШ № 4:**

Ведаю. І бабуль ведаю, і дзядуль. А яшчэ ў мяне ёсць дзве прабабулі Валі. Адна жыве тут, у Вілейцы, а другая ў Крыме, на радзіме маёй мамы.

**Падрыхтавала Яўгенія МАНЦЭВІЧ.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 2.08 | 3.08 | 4.08 | 5.08 |
|---|---|---|---|---|
| ападкі (на працягу сутак) | | | | |
| тэмпература,°C днём | +23 | +27 | +28 | +29 |
| ноччу | +15 | +19 | +18 | +18 |
| атмасферны ціск, мм | 742 | 742 | 742 | 743 |
| хуткасць ветру, м/сек | 2-5 | 2-5 | 1-3 | 1-3 |

| Вільня | 2.08 | 3.08 | 4.08 | 5.08 |
|---|---|---|---|---|
| ападкі (на працягу сутак) | | | | |
| тэмпература,°C днём | +25 | +29 | +30 | +30 |
| ноччу | +15 | +19 | +19 | +20 |
| атмасферны ціск, мм | 750 | 749 | 749 | 751 |
| хуткасць ветру, м/сек | 2-5 | 2-5 | 1-3 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

**Стваральнік «Люду беларускага».** Імя гэтага чалавека цесна звязана з жыццём нашага рэгіёну. Ён збіраў матэрыялы аб прафесійнай і духоўнай дзейнасці яго жыхароў і ўсе грошы ад сваёй гаспадаркі траціў на вандроўкі і навуковыя даследванні. Матырыял аб Міхале Федароўскім чытайце ў матэрыяле Алеся Ралаўца.

## Гараскоп 4 – 10 жніўня



**Авен (21.03–20.04)**

І мужчыны, і жанчыны будуць з цікаўнасцю назіраць, як персанажы і ролі ў іх жыццёвай п'есе будуць мяняць сваё амплуа. Вялікія змены ва ўзаемаадносінах яшчэ наперадзе, але закладка і пачатак гэтых перамен пачнецца ўжо з чацвярга. Прыкладна такая ж сітуацыя і ў фінансавай сферы: вы адчуеце "пах грошай".



**Цялец (21.04–21.05)**

Пастарайцеся не шукаць у паводзінах любімага чалавека "нездаровых" і небяспечных тэндэнцый альбо глыбокага сэнсу. На самой справе ўсё да смешнага проста і добра. Ваша мудрасць – вось залог аптымізму ў прыватнай (асабліва — інтымный) сферы. Праблемы з грашыма яшчэ дадуць аб сабе ведаць, але ўжо ў меншай ступені, чым звычайна.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Жанчыны адчуюць, як растае іх сэрца. І прычынай таму зусім не спякотныя летнія дні, а паводзіны і ўчынкі партнёра. Некаторыя будуць знаходзіцца ў збянтэжанасці: "Што гэта на яго найшло?" Толькі не думайце праяўляць паталагічную цікаўнасць і задаваць гэтае пытанне ўслых. Атрымоўвайце асалоду ад клопатаў і ўвагі.



**Рак (22.06–23.07)**

Не гуляйце ў Шэрлакаў Холмсаў, спектакля з грандыёзным выкрыццём партнёра не будзе, хутчэй за ўсё, ён вам верны, таму што закаханы ў вас. Завяршыце ўсе пачатыя праекты і смела адпраўляйцеся ў адпачынак, бліжэй да цёплага мора і хуткай ракі. Не выключана, што ў апошнія дні тыдня вы зможаце прыняць некалькі лёсавызначальных рашэнняў.



**Леў (24.07–23.08)**

Вялікія перажыванні – у чацвер. Магчымы фінал нейкага цыклу на рабоце, які адбярэ ўсе надзеі на поспех. Праблемы ў бізнесе могуць дасягнуць піку і прывядуць вас да роспачы. Жаданне кінуць усё будзе галоўным. Але... Вашы суседзі па Задыяку, Рак і Дзева, цярпенне якіх будзе бязмежным, могуць навучыць вас выжываць.



**Дзева (24.08–23.09)**

Увесь перыяд – вымушаная бяздзейнасць. Вам нічога іншага не застаецца, як заняцца самааналізам. Пакіньце ўбаку быт і марнасць. Гэта асабліва тычыцца жанчын. Хаця б на нейкі перыяд перастаньце драіць, шараваць, прыбіраць свой дом. Палянуйцеся, пачытайце, паглядзіце на свет вакол вас, і гэты тыдзень вам падасца раем.



**Шалі (24.09–23.10)**

Тыдзень адзначыцца тым, што адбудзецца рэзкая змена як фізічнага і эмацыянальнага стану, так і фінансавай абстаноўкі. Гэты перыяд будзе ці не самым паспяховым за апошнія тыдні. Пятніца прынясе вам некалькі прыемных сюрпрызаў. Магчымы кароткачасовыя вандроўкі дзелавога характару да "патрэбных" людзей.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Нават самым закаханым Скарпіёнам лепш крыху, а можа, нават увесь перыяд, правесці ў адноснай далечыні ад партнёра. Вы будзеце схільны патрабаваць немагчымае і капрызіць. Паўпрыватная-паўдзелавая паездка, што плануецца, можа пашырыць далягляды вашага бізнесу і прынесці грошы, скарыстайце яе цалкам.



**Стралец (23.11–21.12)**

Пастарайцеся не заўважаць дробязей, "бытавухі" і нязначных праблем. Накіруйце свае намаганні на нешта стваральнае, новае, нестандартнае. Магчыма з'яўленне ў вашым акружэнні новых цікавых людзей, на погляды і разважанні якіх трэба звярнуць увагу. Старайцеся часцей выбірацца за горад. І выдатны настрой – гарантаваны.



**Казярог (22.12–20.01)**

Прааналізуйце свае ўзаемаадносіны са светам і людзьмі з пункту гледжання мэтазгоднасці іх у вашым жыцці. Магчыма, неабходна ўнесці некаторыя карэктывы, паколькі частка адносін патрабуе рэарганізацыі, а частка – спынення. З пятніцы многія "навальніцы" сціхнуць, а невялікая дэпрэсія знікне зусім. Усё будзе добра.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Вы можаце адпачыць і папесціцца ў кампаніі прыемнага чалавека, да якога адчуваеце шчырую сімпатыю. Вы шмат і добра папрацавалі, крыху стаміліся і нават раздражняльныя. Таму ўсё, што вам зараз трэба – з карысцю спажыць час і грошы. Перыяд прыгодны для блізкіх адносін з дзецьмі.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Вам зноў давядзецца наладжваць дыялог са сваім арганізмам. Адным Рыбам не хапае рэгулярных клопатаў пра здароўе, а іншыя – занадта недаверлівыя. У справах непераадольны застой – што б вы ні спрабавалі распачаць, будзе марна. Вярніцеся да старых праектаў. Магчымы сваркі з любімым чалавекам ці старэйшымі сваякамі.



Рэгіянальная газета
Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227
Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ
Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 10070 экз.
Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
У розніцу – цана свабодная. № 31 (432) 1.8.2003. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая,11.
Зак. № 2460. Падпісана ў друк у 13.00 31.7.2003
Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а. Тэлефоны/факс: (01773) 6-96-67, 5-38-41 (рэклама), 5-07-99
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667, 53841.**
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284.**
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». Тэл. **33077.**
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211.**
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172.**

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444